ББК 84 Бел 7
УДК 882.6-1

Бензярук Р.

Тры свечкі: Вершы. - Брэст, 1997. - 63 с.

"Тры свечкі" — сімвал веры, сардэчнасці, справядлівасці. Зборнік склалі лепшыя вершы Расціслава Бензярука, напісаныя у 90-ыя гады, пра зямлю родную, яе гісторыю, цудоўны народ, мілую і шчодрую прыроду. Зборнік адрэдагаваў на грамадскіх пачатках Алесь Каско



## ЧЫСЦІНІ ЧАСЦІНА...

Аўтар гэтай паэтычнай кніжкі вядомы чытачу найперш як дзіцячы пісьменнік, празаік. Але ранняе, юначае захапленне вершамі, як сведчыць вопыт масцітых пісьменнікаў, ніколі не праходзіць без следу: яно або трансфармуецца ў лірычную прозу (Янка Брыль, Ян Скрыган), або з ёю ідзе поруч і яе падсвечвае (Уладзімір Караткевіч, Міхась Стральцоў).

У казках, апавяданнях, аповесцях Расціслава Бензерука дастаткова лірызму і фантазіі, каб не здзівіцца, адкрыўшы ў аўтары яшчэ і "чыстага'" паэта. Прычым дасведчанага і вопытнага, што пацвярджаецца вершамі зборніка "Тры свечкі", створанага на працягу многіх гадоў. Чытач вельмі часта сустрэне тут добра знаёмыя тэмы, вобразы, формы беларускай паэзіі. Родная стыхія ў Р. Бензерука — гэта рэаліі асабістага жыцця, свет уласных перажыванняў і роздумаў. Шчырасці, пачуцця і спавядальнасць, дапоўненыя філалагічнай дасведчанасцю, дазваляюць сцвердзіць аўтарскае "Я", сягаць падчас да сапраўднага адкрыцця:

Цераз бярвенні і лаўжы
Ніяк не выбрацца з падману...
XX стагоддзе — два крыжы,
І ўсё ў жыцці як ёсць пакрыжавана.

Паэтычная часціна ягонай душы відочна завялікая, каб умяшчацца выключна ў прозе. Таму і вітаю гэты вершаваны зборнік.

*Алесь Каско*

# НА ПАРОЗЕ ВЯСНЫ

## АСЕННЯЕ ПІСЬМО

Клён за маім акном быў ярка-залаты.
Як наляцеў аднекуль вецер вольны.
Зрываў ён і кідаў пажоўклыя лісты,
Туляўся імі, быццам кот-свавольнік.

Знячэўку наляпіўся ліст на шкло.
Прамёрз увесь і папрасіўся ў хату.
Апошні ён асенняе святло,
Ці матылёк агністы і крылаты.

Я адчыніў акно і запрасіў у дом.
Адзін ён яркі сярод жухлых кветак.
Пакой ураз напоўніўся цяплом.
Здалося мне, што завітала лета.

Прачнуўся ранкам — толькі толькі восем,
А светла так, бо на дварэ зіма.
Ліст развітальны мне даслала ўчора восень,
І я не прачытаў яго дарма.

...Эх, колькі загадала мне жыццё загадак!
Не разгадаўшы іх, адкінуў без пары.
І, можа, пахваліў калі няшчырасць, здраду,
І адпіхнуў таго, хто праўду гаварыў...
*18 - 19. XII. 1992 г.*

## АДЗІНОКІ ЖОРАЎ

*С.С. Шушкевічу*

Як свечку, вецер гукі тушыць:
"Курлы-курлы!" — усё цішэй.
А ён адзін — адстаў ад птушак,
Не зводзіць з чарады вачэй.

Каб падужэлі раптам крылы,
Ляцеў бы ветру наўздагон.
Што зробіш? Крыкнуў ад бяссілля —
І ў голасе пачуўся стогн.

Не ведаў ён, ці хопіць моцы
Адолець снег, мароз і золь.
...Час даў пазнаць нам адзіноту
І жорава пякучы боль.
*31.1.1994 г.*

* * *

Нягучны голас лістапада
У лес нас кліча каляровы,
Дзе дрэвы, быццам для парада,
Спраўляюць яркія абновы.

Бярозка ў жоўтым сарафане
З апаскай паглядае ўдалеч.
А побач з дубам-веліканам
Рабіна мерае каралі.

Заўжды зялёная яліна

Жартуе: '"Лес наш — проста дзіва!"
Зноў маладжавіцца асіна
І чырванее сарамліва...
*7. XI. 1994 г.*

## ЭЛЕГІЯ

Позняя восень снараўляе дажынкі.
Лісцем расквеціўшы дол.
Ноч патушыла на небе жарынкі:
Цёмна, няўтульна наўкол.

Шэрым сувоем сонныя хаты
Мкнецца сутонне абвіць.
Вецер бяздомны, як пудзель кудлаты,
Будзе да раніцы выць.

Восень халодная справіць дажынкі —
Чуецца подых зімы.
Сеюцца, быццам скрозь сіта, дажджынкі.
Зноў раздарожжа і мы...
*10. X. 1993 г.*

## ПЕРШЫ СНЕГ

Задумаў апраўдаць сваю назову снежань
І шые кажухі, каб дрэвы ў іх адзець,
Бялюткі сыпле снег, вакол такая свежасць,
Нібыта ачышчэнне к нам ідзе.

І кожны хоча быць сягоння самым лепшым:
Не лічыць серабра, дасць месца ля агню...
І, можа быць, таму на ліст кладуцца вершы
Пра беласнежную, святую цішыню.

А снег усё ідзе. Ён сыпле, як скрозь сіта,
Фарбуе ад сцяжынкі да страхі.
...Нам каяцца за ўсё, што помнім, што забыта, —
За даўнія і новыя грахі.
*I 2. X II. 1990 г.*

* * *

Без снегу, без марозу зноў зіма,
Усё змянілася - не так, як у дзяцінстве.
Ў прыродзе раўнавагі больш няма,
Як і ў жыцці, ні згоды, ні адзінства.

Чакаю, калі новая вясна
Абудзіць край, сады забелапеніць...
Пакуль зіма, варожасць, як вайна,
Знішчае праўду, ставіць на калені.

Ніхто не стане сёння варажыць,
Бо прышласць адгадаць нам немагчыма.
Дык навучы, як да вясны дажыць
Сумленным людзям, любая Айчына!
*8.XII. 1991 г.*

## СНЯЖЫНКІ

Не мяцеліца — проста сняжок,
Як дарунак адзін на дваіх.
І сняжынкі, што мяккі пушок,
На далонях і вуснах тваіх.

І гірлянды сняжынак сініх
/Толькі ведама мне аднаму!/
Я люблю называць тваім імем,
А чаму? Сам не знаю, чаму...
*26 X11.1993 г.*

## НА ПАРОЗЕ ВЯСНЫ

Завіруха ў палях,
Замятаючы шлях,
Мо апошняе ладзіць гулянне...
Веру, што капяжы,
Зазвіняць на мяжы,
Дзе вясна прызначае спатканне,

Дзе вясёлы ручай
Будзіць поле і гай,
Ад зары маладой сам ірдзіцца...
На парозе вясны,
Сярод лютай вайны,
Меў я шчасце калісь нарадзіцца.

І цаню цішыню,
Дабрыню, цеплыню,
Іх, магчыма, удосталь не маю...
Бачыць светлыя сны
З надыходам вясны
Зычу шчыра я роднаму краю.
*25 - 27. XII. 1.9.93 г.*

## ПАВЕЕ РАДАСНА ВЯСНОЮ...

*/Трыялет/*

Павее радасна вясною,
І край абудзіцца Палескі,
Зноў заўсміхаюцца пралескі.
Павее радасна вясною,

І прыйдзе шчасце маладое
У нашы думы, нашы песні...
Павее радасна вясною,
І край абудзіцца Палескі.
*I. III. 1991 г.*

## САКАВІК

Напрадвесні, напрадвесні
Ад зямлі цяпло.
З першай жаўруковай песні
Сеецца святло.

На паляне, сярод лесу,
Добра, як у сне.

Прабіваецца пралеска
Скрозь зляжалы снег.

Неба — сіняя аснова,
Нізам — светлы ўток.
У ствалах, бы ў бочках, зноўку
Бродзіць, пеніць сок.

Адчуваннем маладосці
Трэба даражыць..
Нават дзед — старыя косці —
Марыць сто пражыць.
*22. IX. 1990 г.*

## ДУБОК

Дождж першы, радасны, вясновы
Змывае смецце гніль і фальш,
А кволы парастак дубовы
Стараецца ўзламаць асфальт.

Дубок прарос, удзячны лёсу,
Гатовы зносіць цяжар, здзек,
Дацягнецца і да нябёсаў,
Калі не знішчыць... чалавек.
*4 5. V. 1993 г.*

## ЛЕТНЯЯ НОЧ

Уверсе — спелых зорак россып,
Унізе — ціша і трава.
Настоены на зёлках росы,
Ды так, што кругам галава.

Адпачывае ўсё ад спёкі,
Над рэчкай месяц малады.
Зязюля лічыць нам гады —
Да восені яшчэ далёка.
*23 - 24. XI. 1992 г.*

# РЭХА ПАМЯЦІ

## ПАГОНЯ

Гляджу ў гісторыю, бы ўдалеч з-пад рукі,
І бачу постаці, знаёмыя да болю:
На люты бой пад Грунвальдам у полі
Ідуць вялікакняскія палкі.

Над імі развінаюцца харугвы
З выявай гордай велічнай Пагоні.
Звіняць мячы, і сатанеюць коні,
І, як сцяблінкі, лопаюць папругі.

Замітусіліся, пабеглі крыжакі,
І за паходняю ляціць услед паходня,
Як роўная між роўнымі — Пагоня.
І з перамогаю вяртаюцца палкі.

...Няўжо адолела нас сёння забыццё
І назаўжды цябе прагналі, коннік?
Не, веру я: вярнуцца ўсё ж Пагоні,
Якая — Лёс, і Памяць, і Жыццё.
*3.III. 1994 г.*

## АКОПЫ. ГОД І913-Ы

Ні рэвалюцый, ні згрызот,
Жыццю яшчэ спакою хопіць.
Паэт на хутары Акопы.
Трынаццаты, шчаслівы год.

І з-пад Купалавай рукі
Радкі кладуцца роўна-роўна:
"Яна і я" ды "Бандароўна",
"Магіла льва" ды "Прымакі".

Трывога часам поўніць дом:
Няўжо ваенныя віхуры
Прымусяць нас спраўляць хаўтуры
Зноў над раскіданым гняздом?

Пасля... А сёння — "умалот":
Паэт, прысеўшы, шпарка піша
І нават дрэвы шум свой цішэць.
Трынаццаты — Купалаў — год.
*23. VIII. 1993 г.*

## ТРЫПЦІХ ПАМЯЦІ

### 1. ДУМКІ Ў КРОШЫНЕ

Як выпала для крошынцаў нядоля,
Калі ад стогнаў родны край ахрып,
Каваў, нібы надзею, жырандолю
І вершы гартаваў свае Багрым.

Пачварам светлы промень быў нялюбы
І думалі, што знішчылі, калі
Багрымавы радкі адправілі на згубу,

Калі паэта ў рэкуты здалі.

Каб не спяваў аб долі і нядолі,
Каб болей люду не казаў:"Зайтрай..."
Але ў салдатчыне, у далечы-няволі,
Ён часта сніў свой шматпакутны край

...Мы зноў збіраемся ў дарогу,
І думкі ў кожнага найперш:
"Жыццё нам захавала, дзякуй Богу,
Хоць гэты, хоць адзін Багрымаў верш
*16. УІН. 1990 г.*

## 2. НА МАГІЛЕ БАГДАНОВІЧА

Як далёка прытулак знайшоў,
Ды і тут Беларусь, мусіць, сніцца?
Я прыйшоў, каб табе пакланіцца,
Са спазненнем на споведзь прыйшоў.

Я прынёс прывітанне здалёк —
Ад зямлі, тваім вершам апетай,
Ад палёў, у якіх кожным летам
Зацвітае ў жытах васілёк.

Я стаў і маўчу. Цішыня.
Што ж прароцтва, Паэт, не збываецца:
"Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага, яснага дня"?
*28.XI.1991 г.*

## 3. ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА З КАРАТКЕВІЧАМ

Яшчэ няма ягоных КАЛАСОЎ,
ХРЫСТОС не ПРЫЗЯМЛІЎСЯ У ГАРОДНІ,
У ДЗІКІМ ПАЛЯВАННІ, у пагоні,
Яшчэ не чую пошчак капытоў.
А завітала "Брэсцкая вясна"
/Якое ж свята без паэтаў і артыстаў!/
І Караткевіч проста і ўрачыста
Чытае свае вершы. І адна
Жанчына кажа ўзнёсла:"Во паэт!"
Закончыў ён. Аўтографы на памяць.
Ягоныя радкі і сёння раняць:
"На шчасце, дружа, дрэнны мой партрэт!"
Не дрэнны ён — тут Творца малады,
І колькі кніг яшчэ надорыць людзям.
Гляджу і веру:
БЫЎ ён,
ЁСЦЬ,
ён БУДЗЕ -
Не забяруць яго бяспамяцця гады.
*31.XI. 1990 г.*

## САНЕТ

*Памяці Ларысы Геніюш*

Ліў дождж. Шторм налятаў здаля
І карабель, бы трэску, гушкаў.
Вярнулася з галінкай птушка,
Прынесла вестку: ёсць Зямля!
Стаміўся вецер дзьмуць і збег.

Нарэшце скончана дарога,
А з ёю — цяжкасць і трывога.
Усе пакінулі каўчэг.

Нібы галубка ў непагоду,
Надзею несла ты народу,
Не патрабуючы дароў,
І верыла, што ранкам веснім
Твае падхопяць дружна песні
Дзесяткі смелых песняроў.
*10.XI.1992 г.*

## НА ВУЛІЦЫ КРАЧКОЎСКАГА

Адсюль, з падслепаватай і драўлянай хаты,
З палескай вёскі, што з назоваю Азяты,
Пайшоў юнак у дзіўны свет, вялікі,
Імя яго — між слаўных, нешматлікіх...
Хаця даўно няма той самай хаты,
Але ёсць вуліца Крачкоўскага ў Азятах.

Іду па ёй няспешна. Мне здаецца,
Напеў гучыць і напаўняе сэрца:
"Зямля мая, о колькі для чужыны
Сыноў сваіх ты ўзгадавала слынных,
Узлёт якіх святы, высакародны —
Цябе навек праславіў, краю родны!
Няхай не ўсе жылі на Беларусі —
Я імі ганаруся... Табою ганаруся!"
*15. VIII. 1995 г.*

## НЕ ПАМЯТАЕМ І НЕ ЛЮБІМ

*Сыну Анатолю*

I.
Гісторыю, скажаючы, пісалі:
Падзея да спадобы — на скрыжалі
Заносілі, а не — вялі на згубу, —
Сваёй мінуўшчыны не ведаем, не любім.
Калі ж распавядаць пачнуць у школе
Праўдзіва пра баі за Крупчыцамі ў полі?...

2.
Даўно ў Расіі — бы ўзялі на мушку
Імёны мужных — Серакоўскага, Касцюшкі,
Ды час аднёсся к ім не так сувора:
Назваў, кім Беларусі быў Сувораў.
Нашчадкі й сёння выбіраць павінны,
Хто быў крыўдзіцелем, а хто любіў ліtвінаў..

3.
Усё, што расказала б пра паўстанне,
Ніхто чужы — мы знішчылі да звання.
Чаму? "Старэйшага" каб улагодзіць "брата"
Альбо збаяліся гісторыі багатай?
Падмурак знік, кустоўі бэзу, мята...
Зямля Касцюшкі, помні слыннае імя ты!...
*2 - 4. XII. I994 г.*

## ДА НАЗВЫ ВЁСКІ ХМЕЛЕВА

*Івану Арабейку*

У карчме Марціна Цеслі[1]
Дым густы, з сінечаю,
Не знайсці пустога месца:
П'юць, гуляюць з вечера.

Хоць няма ў жывых Марціна,
Але справы гожыя:
Удава-карчмарка чынна
Між сталоў паходжвае.

— Што за стан, якія рукі!
Так да ласкі й просяцца...
Абдымі — і здымеш мукі,
Прыгажуня Зосечка!

А другі;
— Чаму ж ты, Зося,
Гэтак заірдзелася?
Зося ў такт:
— Каб лепш пілося
Ды яшчэ й хацелася!...

Трэці:
— Эх, вярнуць бы лета,
Як была ты дзеўкаю!
— Не хваліся. Я на гэта
Адкажу прыпеўкаю:

[1] Хмелеўскі карчмар пачатку XVII стагоддзя

Коля коле,
Паша паліць,
Я ля грубкі грэюся.
Аніколі
Не кахалі
Гэтак, як хацелася б!...

Заспявала — і кашмары
Ў адначас зрабіліся:
За прывабную карчмарку
Дзецюкі пабіліся.

Грэх пасля ў душы насілі,
Колькі Богам велена...
Звеку ў вёсцы хмель любілі
І назвалі Хмелева.
*25. V. 1994 г.*

## БАЛАДА ПРА ГАНАРЛІЎКУ

Гулялі дужыя вятры,
Дажджы, завеі, буры,
Глядзелі замкавы муры
То грозна, то панура.

Той замак атрымала ў дар
Прывабная паненка,
Пагляд якой — мільёны чар,
А твар — ад ружы пенктнай.

Але характар!.. Праз абсяг
Раскажуць вам, канечне,
Што прэтэндэнты на пасаг
Не дагадзілі нечым.

Яна ж мудрэйшая за ўсіх
І ў спрэчках, і ў пацехах…
Прайшлі гады — ніхто да іх
Больш не ішоў, не ехаў…

…Без замка не пазнаць мясцін.
Пшаніцу спеляць ніўкі,
І толькі назва — напамін:
Узгорак Ганарліўкі.
*14.11.1995 г.*

## У КАРТУЗ - БЯРОЗЕ

Як быццам гід, шафёр бязвусы
Паказваў, шпарка гаварыў:
— Мы з вамі ля турмы Картузскай,
Шмат знаюць гэтыя муры!

Хто бараніў свабоду ўпарта
І меней думаў пра сябе,
Трапляў, здаралася, за краты.
І хто тут, браткі, не сядзеў!

Якія цэльныя натуры
Знаходзілі апошні міг!..
А потым мур рашылі бурыць,
Каб памяць вынішчыць пра іх.

Хто рушыў, меў у працы страты
І сорам зведаў не адзін:
Стаялі сцены, як салдаты,
І засталіся на ўспамін…

Шафёр аповяд скончыў лоўка,
Хоць крышачку ўвайшоў у злосць:
— Не любіць праўда падтасоўкі —
Бярыце гэтакай, як ёсць!
*21.XII. 1993 г.*

## КАНЕЦ ЛЕГЕНДЫ

Не ведаю, ці праўда, ці легенда, —
Распавядаюць, нібыта Сувораў
З-над дуба, што ля Крупчыцкага поля,
Салдатамі сваімі кіраваў.

І, войска Серакоўскага разбіўшы,
Памножыў славу ён расійскай зброі,
А заадно і дубу-велікану, —
Суворaўскім стаў называцца ён.

Здавалася, ні бурам, ні маланкам,
Што часта дубава паласавалі цела,
Не справіцца з асілкам аніколі,
А значыцца, і славы не адняць…

Мяняўся час — мяняліся пагляды:
Паход суvotараўскі стаіць сягоння ўровень
Са страшным мураўёўскім, што крывёю
Паўстанне Каліноўскага заліў.

На дрэва легла, быццам цень, няслава,
А праўда, як адмылі ад аздобы,
Здалася неймаверна цяжкай дубу:
Ён рухнуў, як падкошаны, на дол.

Закончылася даўняя легенда...
Памолімся: хай Бог грахі даруе
І тым, хто па-геройску лёг у бітве,
І тым, хто ісціну па-свойму перайначваў,
І ўсім, хто сёння на зямлі жыве!
*31. VIII. 1993 г.*

## ЛЯ БЕРАСЦЕЙСКАГА ВОГНІШЧА

*Памяці Ў.А.Калесніка*

Хто дарогу шукаў як бы вобмацкам,
Хто ішоў праз кусты напралом
К Берасцейскаму зыркаму вогнішчу,
Каб сказаць, што на сэрца лягло.

Разгараліся спрэчкі, што полымя,
Як смалістых падкідваюць дроў...
Ваш бацькоўскі наказ, каб ніколі мы
Не зракаліся праўды й сяброў.

Мы чыталі так вершы, бы ставілі
Усё чыста на кон, што маглі...
Побач с Вамі, любімым Настаўнікам,
Нам жылося лягчэй на зямлі.

...Сёння слёзна, сцюдзёна і воблачна,
Расставанне прыспешвае час...
Век гарэць Берасцейскаму вогішчу —
Гэта нашая памяць пра Вас.
*20.XII.1994 г.*

## ПАЭТАЎ ВОСТРАЎ

Ёсць Востраў у мяне...
*Міхась Рудкоўскі*

Пачнём расказваць, быццам казку, проста:
Жыў-быў Паэт і ў спадчыну меў Востраў.
А Востраў той, і блізкі, і адзіны,
Быў для яго часцінкаю Радзімы.
Ён адчуваў заўсёды повязь востра
З зямлёю, дзе ёсць вёска назвай Востраў:
Была яна і праўдаю, і верай
І клалася радкамі на паперу...
Калі ж улетку песняра не стала,
Бацькоўская зямля засумавала,
Як ён па ёй. Здалася цяжкай ростань.
І ён паплыў...
паплыў дамоў,
на Востраў.
*26-27.1.1994 г.*

## ДАБРЫНЯ

Кім ні быў бы ты, чалавеча,
І якая твая вышыня,
Ведай: толькі ўратуе і злечыць
Нас адзінае — Дабрыня.
Ад няпраўды, нягодаў, зазнайства,
Калі побач шыпіць гадаўё...
Колькі юных Мікола Чарняўскі
У паэзію смела ўвёў.
Памагаў маладзейшым паверыць
У шчаслівы, бы раніца, міг.
Адчыняў выдавецкія дзверы,
Каб з'яўляліся кнігі ў другіх.
Пяцьдзесят. Не паверу ніколі,
Хоць для дзетак — даўно аксакал.
За цябе, мілы сябар Мікола,
Падымаю сягоння бакал!
*11.1993 г.*

* * *

Наказ ім — быць заўсёды разам
І безупынна ў барацьбе,
Мець перамогі і паразы,
А думаць толькі аб сабе.
Жыццё і смерць, любоў і здрада
Хадзілі поруч па Зямлі.
Яны, на гора і на радасць,
Паэту тэмамі былі...
*1.І. 1997 г.*

# МАЛІТВА ЗА БЕЛАРУСЬ

## ДВАЦЦАТАЕ СТАГОДДЗЕ

Цераз бярвенні і лаўжы
Ніяк не выбрацца з падману...
XX стагоддзе — два крыжы,
І ўсё ў жыцці як ёсць пакрыжавала.
*12.XII.1994 г.*

* * *

Дуэлі, кажуць, больш не ў модзе,
Забыць пра іх нам часта раяць.
Як адказаць таму, хто годнасць
І чалавечнасць папірае?...

Калі няшчырасць шчэрыць зубы,
І не памёр яшчэ Малчалін,
І праўду зноў вядуць на згубу,
Калі агортвае адчайнасць,

Калі губляецца дарога,
Што з тупіка вяла спачатку,—
Тады так хочацца пад ногі
Ўсім махлярам шпурнуць пальчатку
*23. VI. 1990 г.*

## СЛОВА

Было гадзіны дзве ці тры,
Калі ў дрымоце соннай мроіў,
Сказаў мне голас унутры:
"Што ж, выбірай для бітвы зброю,
Калі змагаешся са злом,
Каб выкінуць яго на злом!"

Акрыўся б рыцарскім плашчом,
Калі б валодаў адмыслова
Я шпагай, шабляй ці мячом.
"А ты вазьмі за зброю слова! —
Мне той жа голас напрарочыў,—
Шчэ людзі спяць, адкрый ім вочы!"

Узяў я слова і панёс
Народу, каб не ўмёрла праўда.
Нялёгкі мне дастаўся лёс,
Ды адступаць не маю права.
Гартую слова, быццам сталь,
А зло смяецца, правіць баль.
*8.XII. 1992 г.*

* * *

Ноч бяссонная без вершаў,
А навошта мне такая?
Што жадаю? Долі лепшай
Для людзей у родным краі.

Хай не кіне іх надзея
У нялёгкі час, няроўны;
Хай наведае іх Фея
З лёгкай палачкай чароўнай!

Узмахне — пакінуць беды,
І хваробы, і напасці,
бачыць між людзей хацеў бы
Дабрыню, багацце, шчасце.

Калі б гэтак — ранкам росным
Не збіраў бы слёз нідзе я.
Добра, людзі, што апошняй
Памірае ў нас надзея.

Ноч бяссонная нарэшце
За акном цішком знікае...
Цвёрда веру: край Палескі
Лепшай долі прычакае.
*25.II.1996 г.*

## ДОЖДЖ У СНЕЖНІ

Шукайма, людзі, шчасця самі,
Жыццё-нядолю перайначым!...
Няма больш веяў з маразамі:
Зіма сярдуе, горка плача.

У снежні — дождж. Мой верш — у скрусе.
Але па кім ліюцца слёзы?

Нялёгка, горка Беларусі —
За новы дзень яна ў трывозе.
*23.I.1995 г.*

**СЭРЦА**

— Не бунтуй, не крычы, маё сэрца,
Ад нязвыклага шалю ў крыві,
Сярод хціівых, ілжывых жыві —
Гэта лепей, чым сёння памерці.

— Будзеш вечна тады ў паняверцы
І мірыцца з галечай, маной,—
Не згадзілася сэрца са мной.—
Гэтак жыць — мабыць, лепей памерці!

Адсядзецца ты хочаш, калі
Захлынаецца свет ў крутаверці?...
Я прашу:
          — Памаўчы, маё сэрца!
... А яно —
                    і крычыць,
                                        і баліць.
*27.IV. 1994* г.

**ЧОРНАЕ ДРЭВА**

Як між вамі —
                    бы прорва:
Не яднае пасцель,
То ў расколіне
                         чорным
Дрэвам
               злосць
                         прарасце.
Прарасце ў снег і слоту
Скрозь ілганства ды страх,
Не пакіне і потым,
Нават ноччу,
                    у снах.
І сякерай, паверце,
Не зрубаць вам, ані,
Калі ў самыя сэрцы
Прарастуць карані.
Не ўратуюць і дзеці,
І жыццё стольки год...
Коле чорнае веццe
Цяжкім
          словам
                    "развод".
*24 - 26. VIII. 1996 г.*

* * *

За святам зноў прыходзіць будзень,
І раніца на працу будзіць.
Ідзём —
          навокал людзі,
                         людзі.
Як жывяце?
Што заўтра будзе?

Ці вечна з намі той жа клопат
Пра хлеб надзённы і калготы?
Забылі кнігі,
буслаў клёкат,
Да азвярэння —
недалёка.
Купляем шмат, а ўсё нам мала.
Што з намі сталася?
Што стала?
Як нас цуглялі —
не крычалі,
Вялі да бездані —
маўчалі.
Ці вечна будзе гэтаксама,
Ці знойдзем іншую дарогу,
Якая прывядзе да Храма,
Якая прывядзе да Бога,
Жыццё пакажа...
*9.1.1993 г.*

* * *

"Госць у хаце — Бог у хаце!
Некалі казала маці. —
Самым лепшым ад абеду
Падзяліся з тым, хто едзе, —
Агурком, вяндлінай, булкай,
Лыжак пасцялі не мулка!"

Так бывала век-вякамі!
Што ж сягоння стала з намі?

Развучыліся мы штосьці
Запрашаць людзей у госці,
Ды і самі на бяседу
Рэдка ходзім да суседа.

Стала раптам забывацца:
Госць у хаце — Бог у хаце!
*4 - 6.1.1994 г.*

* * *

Не шукаць нам сцяжын баравых,
Не спяваць нам забытае песні...
Паляцелі буслы-журавы
І гады маладыя панеслі.

Яны вернуцца, гнёзды саўюць,
Белы вэлюм накіне каліна...
Кожны мае, канечне, сям'ю
І не хоча былых успамінаў.

Разумею: прасі ці малі,
А не выпадзе болей сустрэцца.
Як згадаю калі-нікалі,
Зноў трывожыць забытае ў сэрцы...
*29.XI.1994 г.*

## **КАЎЧЭГІ**

Нібыта петлі, душаць чэргі,
Спагады, ласкі анідзе...
Будуюць хаты, як каўчэгі, —
Уратавацца б ад людзей!

І грозяцца:
— Дамы, як вежы,
Сабакі, зброя — да ўсяго.
Як прыйдуць нас паліць і вешаць,
Яшчэ пабачым — хто каго!

Не дай Бог варварскіх набегаў,
Бо колькі згіне без віны!
Не выратуюць і "каўчэгі",
Калі не Ноевы яны.
*1.II.1994 г.*

* * *

Спыталіся людзі ў жняі:
"Чаму, як працуеш на полі,
Спяваеш аб шчасці і волі?
Не трэба нам песень тваіх!"

Сказалі паэту: "Павер,
Як край наш заходзіцца плачам
І гора мяжуе з няўдачай,
Ці стане чытацца твой верш?!"

Сказалі прароку: "Лягчэй
Нам сёння не знаць усёй праўды,
Бо побач бязвер'е, бяспраўе,
Жыццё наша — цемрадзь начэй!"

За ўсіх адказаў ім прарок:
"Скажыце, ці маеце права
Без песні, без мовы, без праўды
Сабе браць найменне народ?!"
*7.IV. 1991 г.*

* * *

З грудзей міжволі рвецца немы крык,
Калі згадаю, што жылі іначай
Да той пары, як страшны красавік
Чарнобылем у нас усё пазначыў.

І без вайны жывём сярод бяды,
І без вайны нясём сягоння страты:
Зямля зноў забірае маладых,
Зямля зноў забірае нежанатых.

Пусцеюць урадлівыя палі,
З'язджаюць людзі з вёсак ад напасці...
Не ведаю, ці вернецца калі
Сюды надзея на жыццё і шчасце.
*21.X. 1993* г.

## ВАРТАЎНІК

Ў птушыным разбіраўся шматгалоссі
І слухаў, як расце трава.
"Дзівак, — смяяліся, — філосаф!"
За гэта ён не крыўдаваў.

Як толькі выбухнуў Чарнобыль,
Ён зразумеў, з якой бядой
Сустрэўся:
выпала адно —
быць
З атрутным хлебам і вадой.

Ды не падаўся ўсё ж у вырай:
Хоць дужы быў —
хапіла б сіл,
Але меў повязь з лесам, вірам,
З зямлёю продкаў, іх магіл.

Ён гаварыў вяскоўцам: "Едзьце:
Вам, маладым, патрэбна жыць!
Я застануся, каб дагледзець,
Хто на пагосце ў нас ляжыць..."

Сюды штораніцы прыходзіць,
На свой галоўны каравул.
Адзін ён у сваім абходзе:
Паправіць крыж, парве траву,

Прысядзе, з жонкай пагаворыць,
Якая выпала бяда,
Што да яе не ў госці скора,
Што працякае ў хаце дах...

Ля мамы пасадзіў каліну.
Тут запыняецца даўжэй...
Зрабіў нядаўна дамавіну,
А Бог пакуль што беражэ...
*20 - 21. XII. 1992 г.*

## ХУТАРАНКА

Спарахнела даўно і сядзіць адзінока хаціна
Убаку ад дарог, убаку ад жыцця і людзей.
Цішыню парушаючы, ціўкае ў доме гадзіннік,
І ледзь цягнецца змрочны, няласкавы восеньскі дзень.

Гаспадыня з пасцелі ўзнялася шчэ прыцемкам-ранкам,
Каб курэй накарміць, кінуць крышачку сена казе...
Далібог, шчаслівей пачувае сябе хутаранка,
Як прыблудзіцца хтосьці і вестку сюды прынясе.

Чуў калісь гэты дом гаману ды вяселле са смехам,
Але мужа забрала за Віслай-ракою вайна.
Ну, а дзеці?... У іх ёсць у горадзе праца, уцехі,
І старая ўжо звыклася з доляй: адна — дык адна!

У дажджы і слату хутаранцы жывецца нат лепей,
Чым у вею, што сцеле навокал раўнютка пасцель:

Не дайсці ў магазін, не купіць бохан чорнага хлеба,
Не чакай ніадкуль — ні здалёку, ні зблізку - гасцей.

Аж па самыя пахі залезе ў сумёты хаціна
І, зажмурыўшы вокны, убачыць вясёлыя сны...
Толькі будзе казаць хутаранцы старэнькі гадзіннік:
— Дажыві да вясны!
Пастарайся
дажыць
да вясны!..

*1.XI. 1995 г.*

**ПАМАЛІСЯ, БАБУЛЬКА...**

Маліся ж, бабулька, да Бога,
Каб я панам ніколі не быў...
*Францішак Багушэвіч.*

Ты, бабулька, малілася многа,
І дайшлі твае словы да Бога,
Бо я панам ніколі не быў,
Цяжка крочыў жыццёвай дарогай,
Не рабіў для народа благога,
Але й славы сабе не здабыў.

Сёння ў чэргі пасталі па славу
Шмат паноў ды падпанкаў, хто правіў,
Хто нахабна абкрадваў народ,
Хто адрокся ад роднае мовы.
Праўду хто падмяніў пустаслоўем —
І вялікі і дробненькі зброд.

З імі мне не было па дарозе.
Калі раптам прылягу ў знямозе
Ці прыдушаць бяда і прымус,
Я не стану прасіць больш нічога:
— Памаліся, бабулька, да Бога
За мяне і маю Беларусь!
*4. X. 1994 г.*

* * *

Трапіў у вароны - крачы, як і воны.
*Прымаўка, якую любіла*
*паўтараць бабуля Дуня.*

Між крумкачоў не лепшыя і мы:
Нас каркаць па-чужому прывучалі.
Па-свойму крыкнем часам ад адчаю,
Згадаўшы пра напеўны гук сурмы.

Тады накінуцца і, злосныя, дзяўбуць:
Нахабства — адышлі ад іхняй праўды!
Не будзе паратунку і спагады:
Не спыняцца, аж покуль не заб'юць.

Не пакідаюць кропелькі надзей.
Такі закон у шэрасці крумкачых —
Дзяўбсці слабейшых, калі нават плачуць.
...Як хочацца пажыць сярод людзей!
*30. VII. 1995 г.*

## ЖУРНАЛІСТ І ПІСЬМЕННІК

— Калі "пісьменнік" у значэнні "шмат пішу".
Тады "карэспандэнт" ад слова, мабыць, "кар",
Бо мушу прадаваць штодзень сваю душу
За невялічкі журналісцкі ганарар.

— А я пішу аб тым, што ляжа на душу:
З натхненнем я - і раб, і гаспадар.
Ніколі я, ніколі не хлушу,
Ніколі не спаганю Божы дар.
Прыбегну к мове той, якой пісаў Эзоп,
Як праўду для людзей расказваць не змагу...

—Які з мяне Эзоп?! Я больш... я больш халоп.
Сабака на жалезным ланцугу.
*18. VII. 1995 г.*

## ШТО ЗА ЛЮДЗІ?..

Беларусы... Што за людзі!
Вечна збоку, нібы ў ценю.
Хто так роднае не любіць?
Хто так роднае не цэніць?

"Каб замежныя даброты!" -
Пра сябе ў зацішку марым.
Лёгка нас купіць за злоты,
А тым болей - за даляры.

За расійскі без астатку
Прадаемся з трыбухамі.
Застаёмся ўсім загадкай:
Скуль мы будзем?
Хто мы самі?

Мову вучым пад прымусам,
Аб нябеснай мроім манне...
Што за людзі беларусы,
Не мінаецца пытанне.
*20. VI. 1995 г.*

## ГРЭШНІК

Прад абразом укленчыўшы святым,
Так і стаіць гадзіну, можа, вечнасць.
Прывабны твар, з адценнем дабраты.
Спытаў яго: "Вымольваеш што ты?"
Ён адказаў:"Спакой і чалавечнасць".
Яшчэ спытаў:"Ты вінаваты ў чым,
Што дараваць Гасподзь табе не можа?"
"Вялікі грэх. Я меў калісьці чын
І многім-многім мог дапамагчы,
Ды адмаўляў ім і хлусіў бязбожна...
Цяпер на сэрцы гэты грэх нашу,
І чым далей, тым мне цяжэй, канешне.
Ў маленні спапяляючы душу,
Хоць сам сабе даўно ўжо не хлушу,
Але памру,напэўна, так, як грэшнік..."
*3- 4. V. 1996 г.*

## ТРЫ СВЕЧКІ

Адкінем сёння мішуру і хлам,
Паверыўшы, што цяжкасці не вечна,
І разам зойдзем у Гасподні храм,
Перад амбонам тры паставім свечкі:

Перш — за здароўе ворагаў сваіх,
Каб дабрыня адолела ў іх злобу;
Яшчэ дзве — за сям'ю, за нас саміх,
Каб абышлі няшчасці і хваробы.

Гарыць агонь, і растапляе воск,
Цяпер усе памкненнямі адзіны:
І верым, што за нас цярпеў Хрыстос,
І памятаем продкаў і Радзіму.

Спадае з сэрцаў неймаверны груз,
Сыходзіць мір, святое прасвятленне.
...Маліцеся часцей за Беларусь —
Яе Багацце,
Славу,
Адраджэнне.
*4.1.1996 г.*

# МОЙ РОД

## ЗГАДКІ МАЛЕНСТВА

**І. ВЯЧОРКІ**
Зімы далёкай непаўторны час.
Усё — у белым: лес, лугі, пагоркі.
Збіраюцца жанчыны на вячоркі —
На попрадкі, як гаварылі ў нас.

Заходзяць гуртам — аж у хаце цесна
Аж жартаў, смеху, сонечных вачэй,
І нараджаецца, расце, сталее песня
Пра рэчку, што з-пад каменя цячэ.

Далей — смялей. То песні, то частушкі,
А то вясёлыя расказы пра жыццё...
— А вы чаму, малечы, не спіце?
Даўно чакаюць вас падушкі!

А як жа спаць, як гарманіст Даніла
"Салёныя" ва ўсю "пячэ" прыпеўкі.
Шыпяць жанкі нягучна, незласліва,
І чырванеюць, бы клубніцы, дзеўкі.

Нарэшце за парог, у зорнасць зімняй ночы,
Дый на дварэ не гасне ўраз гаворка...
Нам спаць пара, заплюшчваюцца вочы,
А ў сны да нас прыходзяць зноў ... вячоркі.
*25 - 26. XI. 1992 г.*

**2. КАЛЯДНАЯ ВЯЧЭРА**

За вокнамі снег белы, як папера,
Нібы зіма раскручвае сувой...
Зноў на стале — калядная вячэра,
А за сталом — і радасць, і спакой,

І дзіўны пах — ці летні, ці вясенні.
Мо блытаніна пораў у жыцці?
Бо з-пад абруса вытыркае сена
І стравы пачынаюцца з куцці.

Тут, за сталом, і казка быць павінна,
Калі чакаеце ад працы летняй плён.
Вось выцягнеш даўжэзную сяніну,
І верыцца: высокі будзе лён

У зімні вечар моляцца і вераць,
А ў небе зорак ясных хараство...
Закончыцца калядная вячэра —
Прачнёмся на І су сава Раство.
*25. XII. 1995 г.*

**3. ПА ЧАРНІЦЫ**

У тое лета Асіпоўка абмялела:
Вады ў ёй — толькі курыцы напіцца...
Штаніну закасаўшы за калена,
За рэчку ў бор імчалі па чарніцы.
Эх,ранавата: мала ягад спелых!
Набраўшы прыгаршчы, мы іх амаль не елі,
А фарбавалі твары для наказу,
Дамоў вярталіся — няйначай папуасы.
Нібы казалі кожнаму: глядзіце,
Кідайце ўсё і ў ягады ідзіце!
Ды матак, пэўна, гэтым не абманеш —
Нас гналі да калодзежаў памыцца,
А самі гаварылі: "Вось на Яна
І пойдзем, бабанькі, за рэчку па чарніцы!.."
*12.Х. 1991 г.*

**МОЙ РОД**
***/Жарт/***

Зазірнуць у глыб вякоў
Стала добрай модай...
І Мікіта Міхалкоў
Знакаміты родам.

Можа, продак сёрбаў боршч,
Не з глінянай міскі?
А паэт Тармола горш?
Стаў Тармолам-Мірскім.

Хто са шляхты, хто з дзячкоў —
І заві "васпане"...
Мой жа род на сем вякоў
Ўсё адны сяляне.

І не лезлі ў каралі.
Не ставала моцы?
Не, стаялі на зямлі

Вельмі нават моцна.

Працавалі на зямлі
Цяжка, Божа свенты,
І хацелі, каб пайшлі
Мы ў ін-тэ-лі-ген-ты.

Інстытут, канечне ж, даў
Нам азы навукі
А галантнасць — Божы дар —
Ці асіляць ўнукі?
*22. X. 1995 г.*

## ЦЫГАНСКІ КОНЬ

*Дзеду Юстыну Пратасюку*

Кірмаш галёкае, рагоча,
І зычны тлум, і таўкатня...
Конь добры дзеду ўлез у вочы,
Яму другія - не раўня.
"Я бачу, дзядзька вельмі хоча
Купіць вось гэтага каня? -
Пытаецца цыган. Па часці
Прадаць усё — яму з рукі. —
Не конь, скажу табе, а шчасце!
Не бачыш — прыгажун які?!
Якая шыя! Шэрай масці
І ў белых яблыках бакі..."

Цыган пацвельвае, зараза.
Дзе праўда тут, а дзе мана?
Чаму ён столькі зняў адразу,
Што невысокая цана?
Не атрымаўшы дзед адказу,
Купіць не хоча ў цыгана.

"Шукаеш, дзядзька, скрозь падману?
Скажы, чым гэта конь не люб.
Як выйдзе ў поле з плугам рана,
Дык залюбуецца ўвесь люд.
Наконт заганы? Ёсць загана —
Не любіць лазіць ён на дуб!

А так — сілач. Звязе на горку,
З гразюкі выцягне на тракт..." —
"Прабач, але я не павёрку
Хачу ў цябе купіць, дзівак!"
"Ну, дык аб чым тады гаворка?.."
/Цыган у гутарцы — мастак!/

І па руках. Як з родным братам,
Стары расстаўся з цыганом.
Шчаслівы, едзе ён дахаты.
Наперадзе бялее дом,
Але бліжэй раўчук з цыбатым,
Драўляным дзедавым мастком.

Дайшоў да моста — конь ні з месца...
"Вы пустазвоны — не народ,
Каб на зямлі было вам цесна!" —

Кляў дзед увесь цыганскі род.
Ён тузаў, нокаў і, нарэшце,
Паехаў на бліжэйшы брод...
*16 - 17.XII.1993 г.*

## БАБУЛІНА КАЛЫХАНКА

Мы без бацькі раслі. Кожны дзень у рабоце матуля.
Як прыходзіла ўноч, то валілася, бедная, з ног.
Вечарамі спявала бабуля свае "люлі-люлі",
Каб сон пудкі ад нас уцячы куды-небудзь не змог:
— Люлі-люлі-люлі,
Прылытілы гулі,
Сілы на ворота
У чырвоных ботах,
Сталі сокотаты:
"Нам кого забраты?
Будым забыраты,
Хто ны хочэ слаты..." —
"Йіжа вам в корыты,
Діток ны бырітэ.
Стану колыхаты —
Будуць діты спаты..."
Як даўно ўсё было! Ты заплюшчыла стомлена вочы.
Пад магілай тваёй ціха сыплецца з раніцы снег.
Калыханку спяваць, мусіць, будуць завеі да ночы.
Калі ласка, цішэй! Хай бабуля мая адпачне.
*22. X. 1995 г.*

## ШАПКА МЕДЗЯКОЎ

Мой бацька загінуў у пекле баёў
У студзені ў год сорак пяты.
І сталі плаціць пяцьдзесят пяць рублёў
Для мамы, мяне і для брата.

Як вырасці змог у бясхлебны той час,
Дый быць шчэ абутым, адзетым?!
Што голад з бядой не адолелі нас,
То дзякаваць Богу і дзеду.

Нам пенсію /помню, было па вясне/
Аднымі далі медзякамі:
Насыпалі поўную кепачку мне,
Я з радасцю нёс яе маме.

— Глядзі, як багата! — шчаслівы, казаў,
Ды ў міг абдало бы марозам,
Твар матчын у гэту хвіліну не ззяў —
Каціліся горкія слёзы.

... І трэба было яшчэ вырасці мне —
Усё пазнавалася потым:
Як шмат абаронцаў лягло на вайне,
Як мала плацілі сіротам!..
*15.X. 1995 г.*

## АКТАВЫ

*Светлай падмяці маці маёй ~*
*салдацкай удавы*

1.
Такі няўмольна-несуцешны лёс!
Як рана маладосць тваю скасілі:
На дваццаць пятым паштальён прынёс
Ліст пахавальны. Ты пагаласіла
І ўпрэглася адна ў сямейны воз,
Каб за двaіх. І дзе ўзяліся сілы!
Не брала шлюбу больш, занятая работай,
Каб дзеці зналі радасць, хлеб, пяшчоту!...

2.
Было куды вяртацца нам з дарог.
Дзе сустракалі сонца, неба просінь...
Ніхто цябе, матуля, не збярог:
Сіротамі адчулі ў тую восень,
Як на труну асыпаўся пясок, —
А пражыла ты пяцьдесят і восем.
...Скажыце, з дапамогаю актавы
Ці мацярынскі лёс я змог уславіць?..
*2.1.1994 г.*

## РОДАМ З ВАЙНЫ

*Брату Паўлу*

Адно і тое ж бачыцца здавён:
Ты выжыў, брат, той ноччу, як да рання
Стралялі ў нашым доме партызаны
І вымагалі ў дзеда самагон.

Мы родам з той далёкае вайны,
Як хлебароб улетку стаў салдатам,
Калі асірацелі нашы хаты, —
Бацькоў не дачакаліся сыны.

Паўвека ўжо. З табой мы не адны:
Услед ідзе малодшых пакаленне...
Дык будзем жыць па праўдзе і сумленні:
Мы ж родам, брат, з далёкае вайны!
*10.1.1992 г.*

## БРАТУ

Туман над лугам — белы сырадой,
І цішыні не будзяць птушкі свістам,
А мы з табою, брат, ідзём дамоў —
Вяртаемся ў далёкае дзяцінства.
Салодка пахне ад ракі аер.
Яшчэ крыху, і ў роднай будзем хаце,
Дзе маладая зноў сустрэне маці,
Дзе не спытаюць, скуль мы і чые.

Дзяцінства - спадзяванняў дзіўных шмат
І летуценняў, поўныя засекі...
О, як тады хацелася нам, брат, -
Хутчэй бы залічылі ў чалавекі!
*22. VIII. 1996 г.*

* * *

Як часта ў гады маладыя
Надзеі, бы кветкі, цвілі!
Мы столькі стварылі ідылій
Пра заўтрашні дзень на зямлі!

Канечне, не ўсё адбылося:
Развеяны мары-дымы.
Глядзіш, на парозе ўжо восень —
Прадвесніца ранняй зімы.

Прыходзіць часцей разуменне,
Што ты на зямлі толькі госць,
Што родам з таго пакалення,
Хто страціў дарма маладосць.
*8. VII. 1991 г.*

**ТАБЕ**

*В.Б.*

Ганю адчайна ад сябе
Благія думкі і пакуты.
Няўжо навекі я прыкуты,
Бы ланцугамі, да цябе?

Няўжо такая ты адна
І я кахаць бясконца мушу
Твае, як канфеці, вяснушкі,
Што дорыць шчодрая вясна?

Больш чвэрці века па адной
Ідзём дарозе ўзімку, летам...
Я дзякую табе за дзетак,
Якія ў радасць нам з табой.

Ганю адчайна ад сябе
Дурныя думкі і нягоды...
Ці выберу калі свабоду,
Якая будзе без цябе?
*24.11.1996 г.*

* * *

Сярнічкай зорка дагарыць,
Трывогу верне.
"Мне пра каханне гавары,
Яшчэ — пра вернасць" —
Прасіла ты каторы раз
Як бы ў адчаі,
І я ахвотна паўтараў
Табе: "Кахаю!"
Не знаю, думала аб чым.
Што адбылося?
Ды стала светла ўраз ўначы...
Ці мне — здалося?..
*17. XI. 1994 г.*

* * *

Як човен выплывае з чаратоў,
Так месяц выбіраецца з-за хмары.
Нам радасна і гаварыць і марыць
Аб нашым шчасці на мільён гадоў.

У нас усё з табой, здаецца, ёсць:
І праца ў школе, і людзей прызнанне,
І жартаўліва-шчырае каханне,
І гэтая на вечнасць маладосць.

Куды ад нас юнацтва паплыло?
Прыйшлі ўзамен развагжлівасць і сталасць,
А за вуглом цікуе пільна старасць...
Дзе маладое згублена вясло?!

Прызнаюся: мне хочацца ізноў
З табою марыць пра жыццё і вечнасць,
Каб месяц, як у той далёкі вечар,
З-за хмары плыў, бы лодка з чаратоў.
*13. V. 1994 г.*

## НАТАШКА

Сэрца здрадай яшчэ не атручана,
На каханне глядзіць, як здаля,
Дый са шчасцем пакуль не заручана:
Спіць душа, як пад снегам ралля.

Ды вятры патыхаюць паўднёвыя,
Што прыносяць цяпло і вясну,
Разаб'юць яны думы зімовыя
І абудзяць пачуцці ад сну.

Не зачыніць больш сэрца засевамі,
Шчасця міг не схавае ў сабе —
І засвеціцца радасць вясновая,
Быццам першынец-ліст на вярбе.
*12. III. 1993 г.*

## ЯК РАННІ СНЕГ...
***/Трыялет/***

Як ранні снег на мокрую зямлю,
Так першае каханне к нам прыходзіць,
І нездарма гавораць у народзе:
"Як ранні снег на мокрую зямлю..."

Яшчэ не сказана шчымлівага "люблю",
Але іначай кроў па жылах бродзіць.
Як ранні снег на мокрую зямлю,
Так першае каханне к нам прыходзіць.
*12. XI. 1993 г.*

## ВЕРШ У ВЕРШЫ

*Прысвячаецца Н.*

Ты не паэтка. Мне, аднак, здалося,
Калі нягоды выпалі і рыфы,
Радочкі выспелі і набрынялі рыфмай,
Нібы зярняты ў сонечным калоссі:

"Я хацела лятаць —
Мяне ў бездань скідалі.
Я хацела кахаць —
Мяне злосна таі пал і.
Хаця сіл не было,
Я на ногі ўставала,
Калі горка было,
Не маўчала — спявала..."

*10.11.1995 г.*

## СКАЖЫЦЕ, А ВЫ ПЛАКАЛІ КАЛІ?

*Наташцы на выздараўленне*

Скажыце, а вы плакалі, калі
Дзівосная мелодыя гучала,
Якой было ў пакоі месца мала,
І птушкай за акно яна сягала,
Дзе крочыла з ёй радасць па зямлі?

Дачка іграла, быццам віртуоз,
Бы ружы белыя кідала мне пад ногі, —
Я ж бачыў светлазорную дарогу:
Іскрыстая, яна вяла да Бога...
І вочы памакрэлі ўраз ад слёз.

Я плакаў не ад радасці, о не!
Згадаўся ліпеньскі трагічна горкі ранак,
Калі магло знямець фартэпіяна,
І запры папіла ў душы старая рана, —
Час не лячыў, здавалася, мяне.

Скажыце, а вы плакалі, калі
Дзівосная мелодыя гучала
І кветкі—казкі ў момант расцвіталі,
Якіх, бадай, не знойдзеш на зямлі?..

Скажыце, а вы плакалі калі?
*23 - 24. XI. 1994 г.*

## ДАРОГА ДАДОМУ

Дарогі я не ведаю такой,
Якая б ні прыводзіла дадому,
У родны кут, дзе змалку ўсё знаёма,
Дзе нас чакаюць ласка і спакой.

Прыветны позірк, дотык мілых рук,
Гаючыя, ураз здымаюць стому,
І думаю:"Цяпер навекі дома,
Не буду ведаць больш дарожных мук!"

А пройдзе час зноў еду ў снегапад,
Хоць скардзіцца, бадай, няма прычыны:
Пакуль мяне чакае тут жанчына,
Бяда міне, вярнуся я назад.
*23 - 24. Xl. 1992 г.*

## РОДНАЕ

Як дабіраўся на "папутцы"
Ці пехатою праставаў,

Бярозавай зялёнай хусткай
Матулін дом здалёк вітаў.

Садзіў бярозы мой дзядуля,
Як сам быў хлопец малады,
Каб госця шэрая — зязюля —
Лічыла шчасце і гады.

Як родны дом ні грэў, ні гушкаў,
Мы паляцелі хто куды
З-пад тых бяроз, як быццам птушкі,
У іншы свег — у гарады.

Мне не заехаць больш у будзень,
Вяселлі ладзяць без мяне.
Сягоння там чужыя людзі
Бліжэй нібыта і радней.

Цяжар гадоў напамінае,
Што рвецца з маладосцю ніць...
Не ведаю, ці ў родным краі
Змагу зноў смагу наталіць?..
*17. V. 1993 г.*

## СТАРАЯ ГРУША

Шчаслівая груша ў нейкай меры:
Не знішчылі мароз і град
І абмінула ствол сякера,
Як з-за падаткаў seклі сад.

Вясёлы вецер часта гушкаў,
Пытаў яе, ці хоча жыць...
Скідала дзічка летам грушкі,
І столькі - як іх пасушыць!

Да чырвані палілі ў печы,
Па хаце плыў салодкі пах...
Па-маладому ўзняўшы плечы,
Бывала груша ў нашых снах.

... Я ў Стрыганцы — прайшло нямала —
Адзін сярод чужых людзей.
Старая груша ўсё ж пазнала,
Кіўнула голлем: "Добры дзень!"
*9.II.1997 г.*

## СТАЛІ МАЛАДЫЯ НА РУЧНІК
### */Трыялет/*

*Наталлі і Сяргею Бабровым*

Сталі маладыя на ручнік,
Пакляліся родным, блізкім, Богу
Век дзяліць і радасць, і трывогу.
Сталі маладыя на ручнік,
Каб запомніць урачысты міг
І далей ісці адной дарогай...
Сталі маладыя на ручнік,
Пакляліся родным, блізкім, Богу.
*9. XI. 1996 г.*

## НАЧНЫ ЦЯГНІК

Жыццё маё, ты - як цягнік бясконцы...
*Пімен Панчанка*

Гады, і месяцы, і дні —
Нязведаныя далі.
Жыццё маё — начны цягнік,
Які імчыцца ўдалеч.

Спачатку ледзьве ён цягнуў,
Як узбіраўся ўгору.
Паўвекавую дасягнуў
Мяжу яшчэ заўчора.

Цяпер па-іншаму адлік:
Адзін, чатыры, восем.
Ужо з гары ляціць цягнік
І дагарае восень.

Няма ні месяца, ні зор,
Бо хмарна над зямлёю...
Я ж бачу блізкі семафор,
Прыпынак для спакою.
*28.11.1995 г.*

## ПРЫЗНАННЕ
### */Акраверш/*

Радзіма — дзіўны край, прыветны і гасцінны,
Адорвала цяплом, каб рос, мужнеў хлапец.
Савінец, Лександра, і Лойкі, і Гасцінец —
Ці ж проста для мяне знаёмыя мясціны
І любыя таму, што побач Стрыганец?...
Стамляюцца палі. Што будзе заўтра, потым?
Лясоў паменшала. Змяненні там і тут.
А ў памяці маёй нязменна, як на фота,
Ў вясёлкавым святле маленства мілы кут.

Без Надзіных карчоў, без Вераччынай хаты
Евангельскі рай-сад не поўны і не той.
Не лётае да нас сям'я буслоў крылатых:
З дзіцяткамі цяпер, так мовяць, перабой.
Які ж тады прагрэс? Працяг да адмірання?!
Руплівасці няўжо так не хапае нам?..
У вернасці навек, як першаму каханню,
Клянуся я зямлі: яна ў мяне адна!
*12 - 13.XII.1993 г.*

**З М Е С Т**

МОЙ РОД



Здадзена ў набор 25.01.97 г.
Падпісана да друку 25.02.97 г.
Фармат 60Х84. Папера афсетная.
Афсетны друк Умоўн. друк. ярк. 3,4.
Тыраж 300 экз. Цана па дамоўленасці.
Зверстана і надрукавана на абсталяванні фірмы "Форт"